**Гродна**
№12 (541),
14 чэрвеня 2020

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




# КАБ БЫЛІ СВЯТЫМІ

ЧЭРВЕНЬ – АСАБЛІВЫ МЕСЯЦ, КАЛІ ГЛЯДЗЕЦЬ НА ГЭТЫ ЧАС СА "СВЯТАРСКАГА" ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ. ПРЫЧЫН НЕКАЛЬКІ. ПЕРШАЯ – ПРЭЗБІТЭРСКІЯ ПАСВЯЧЭННІ, ЯКІЯ ЗВЫЧАЙНА АДБЫВАЮЦЦА Ў ДАДЗЕНЫ ПЕРЫЯД. ЧАРГОВАЯ ПРЫЧЫНА ЗВЯЗАНА З ПЕРШАЙ – ГАДАВІНЫ ПАСВЯЧЭННЯЎ, КАЛІ СВЯТАРЫ ЎСПАМІНАЮЦЬ ДЗЕНЬ, У ЯКІ РАСПАЧАЛІ СВАЁ СЛУЖЭННЕ. АДНАК ГЭТА ЯШЧЭ НЕ ЎСЁ – 19 ЧЭРВЕНЯ ПРЫПАДАЕ СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ МАЛІТВЫ АБ СВЯТАСЦІ СВЯТАРОЎ.


*працяг на с. 5*


**"Святар – самы бескарысны слуга, калі Езус не называе яго сябрам". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мц 9, 36–10, 8**

Езус, убачыўшы натоўпы людзей, злітаваўся над імі, бо яны былі знясіленыя і пакінутыя, нібы авечкі, якія не маюць пастыра. Тады Ён кажа вучням сваім: “Жніво вялікае, ды работнікаў мала; дык маліце Гаспадара жніва, каб выслаў работнікаў на жніво сваё”. І, паклікаўшы дванаццаць вучняў сваіх, Ён даў ім уладу выганяць нячыстых духаў і лячыць усялякую хваробу і ўсялякую немач. Імёны ж дванаццаці апосталаў былі такія: першы Сымон, званы Пятром, і Андрэй, брат яго, Якуб Забядзя і Ян, брат ягоны, Філіп і Барталамей, Тамаш і Мацвей мытнік, Якуб Алфееў і Тадэвуш, Сымон Кананіт і Юда Іскарыёт, які і здрадзіў Яго. Гэтых дванаццаць паслаў Езус, наказваючы ім: “На шлях паганцаў не ідзіце і ў гарады самарыйскія не ўваходзьце. Найбольш ідзіце да авечак з дому Ізраэля, якія загінулі. А ідучы, абвяшчайце, кажучы: «Наблізілася Валадарства Нябеснае». Хворых аздараўляйце, мёртвых уваскрашайце, пракажоных ачышчайце, злых духаў выганяйце. Дарма атрымалі, дарма і давайце”.

### МАЛІТВА АБ СВЯТЫХ СВЯТАРАХ

Свету патрэбны прафесійныя і старанныя ўрачы, добрыя настаўнікі, любячыя бацькі... Але таксама і сведкі, арыенціры, якія ўкажуць людзям шырэйшыя гарызонты і іншыя перспектывы. Не хапае аўтарытэтаў, духоўных праваднікоў.

Сучасны свет “пакутуе ад часовасці”, хварэе на прыземленасць. Яму не стае добрых святароў, Божых слуг, якія дапамаглі б чалавеку наталіць голад вечнасці і бясконцасці. Людзі дээарыентаваныя, яны не ведаюць, да каго звярнуцца, куды накіравацца. Шукаюць парад у разнастайных гуру, псіхолагаў і псіхіятраў. У Евангеллі Хрыстос дае нам адказ: “Прасіце Гаспадара жніва, прасіце і маліцеся...”, каб хапіла святароў – праваднікоў, якія змогуць супрацьстаяць сучасным павевам моды і пакажуць нязменныя і вечныя каштоўнасці.

Свету сёння патрэбны добрыя святары. Яны ўсё яшчэ патрэбны нашаму мясцоваму Касцёлу. Святар выконвае асабістую місію “in persona Christi” – у асобе Езуса Хрыста. Сам Хрыстос становіцца прысутным, г. зн. аб’яўляецца, робіць бачнай сваю збаўчую дзейнасць у служэнні святара. Калі той абвяшчае Божае слова, удзяляе сакраманты, навучае ісцінам веры альбо суправаджае вернікаў як пастыр, Езус Хрыстус увасабляецца сярод свайго народа, каб такім чынам пастаянна накіроўваць яго да збаўлення.

Будзем маліцца, каб Пан выслухаў малітвы вернікаў і абраў добрых пастыраў, якія будуць весці нас у Нябеснае Валадарства.

**Ці малюся аб святых пакліканнях да службы ў Касцёле?**

**Як выказваюся пра святароў у сваім асяроддзі?**

### XII ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Мц 10, 26–33**

Езус сказаў сваім Апосталам: “Не бойцеся людзей, бо няма нічога схаванага, што б не адкрылася, і нічога патаемнага, што б не стала вядомым. Што кажу вам у цемры, гаварыце на святле, і што на вуха чуеце, прапаведуйце на дахах. Не бойцеся тых, хто забівае цела, душы ж не могуць забіць; а бойцеся больш таго, хто можа і душу, і цела загубіць у геене. Ці ж не два вераб’і прадаюцца за ас? І ніводзін з іх не ўпадзе на зямлю без волі Айца вашага. У вас жа і валасы на галаве палічаны. Таму не бойцеся: вартыя вы больш за многіх вераб’ёў. Так кожнага, хто вызнае Мяне перад людзьмі, і Я прызнаю перад Айцом Маім, які ў нябёсах. А хто адрачэцца ад Мяне перад людзьмі, ад таго і Я адракуся перад Айцом Маім, які ў нябёсах”.

### ВЕРА Ў БОЖУЮ ПРЫСУТНАСЦЬ

Чалавек пастаянна чагосьці баіцца. Страх суправаджае яго заўсёды. Дзеці, напрыклад, баяцца цемнаты, падлеткі – рэакцыі бацькоў, калі не вяртаюцца дадому ў прызначаны час альбо маюць праблемы з вучобай. Дарослых сёння паралізуе трывога за будучыню, за тое, што будзе заўтра.

На гэтыя страхі выліваюцца, як жыватворная раса, словы Хрыста: “Не бойцеся”. Езус запэўнівае, што не трэба баяцца тых, хто забівае цела, але не можа забіць душу. Ніхто ў свеце, акрамя нас саміх, не можа забіць нашу душу. Акрамя таго, страхі могуць быць развеяны ўсведамленнем факта, што Бог – гэта Той, хто, поўны любові, падтрымлівае сваіх вернікаў і не пакідае ў цяжкія часы.

Бог гаворыць нам не баяцца, бо мы важнейшыя, чым пара вераб’ёў, а ніхто з іх без волі Айца не ўпадзе на зямлю. Нават валасы на галаве кожнага чалавека палічаны. Над намі чувае чулая і поўная любові прысутнасць Бога, па-бацькоўску ўважлівая нават да дробных рэчаў. Вера ў Божую прысутнасць з’яўляецца тым, што заўсёды дае нам надзею і дазваляе жыць у спакоі.

**Чаго я больш за ўсё палохаюся і баюся?**

**Ці веру, што Пан Бог мне штодзённа дапамагае?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Маліся і патрабуй

***Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса ўжо больш за чвэрць стагоддзя з’яўляецца Сусветным днём малітвы аб святасці святароў. Гэты дзень устанавіў св. Ян Павел ІІ у 1995 годзе, каб усвядоміць вернікам іх адказнасць за якасць святарскіх пакліканняў і заахвоціць маліцца за пастыраў.***

Выбар урачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса быў натхнёны дэвізам святога пробашча Яна Віянэя, апекуна святароў, які сцвярджаў, што “святарства – гэта любоў Сэрца Езуса”. Немалаважным з’яўляецца і той факт, што ўрачыстасць адбываецца ў час, калі традыцыйна ў многіх дыяцэзіях свету ўдзяляюцца святарскія пасвячэнні, цэлебруюцца прыміцыйныя св. Імшы і святкуюцца юбілеі святарства. Натуральна, што тады пра душпастыраў думаюць і гавораць у Касцёле вельмі часта.

Кожная паслуга ксяндза заснавана на хрысціянскім пакліканні, і гэта самае галоўнае. Як хрысціяне мы пакліканы аддаваць сваё жыццё іншым, падобна Хрысту, а як святары – весці Божы народ, праз удзяленне сакраментаў ствараць касцёльную супольнасць, якая павінна быць знакам еднасці і любові, а таксама паказваць свету прысутнасць Хрыста сёння.

Для таго, каб святар мог здзяйсняць сваю місію, ён павінен быць, у першую чаргу, святым, пакорным і місійным. Святым – таму што мусіць быць чалавекам, укаранёным у сваім хросце. Мусіць заўсёды памятаць, што ў хросце ён пакінуў “старога чалавека” і нарадзіўся як “новы”. Пакорным – з улікам свайго паклікання, бо святарства – гэта не ўлада, дадзеная яму, а служэнне. Місійным – таму што не можа “ўстаяўляцца” ў адным месцы, але заўсёды павінен быць гатовы накіравацца туды, куды пасылае Касцёл.

Менавіта такія ксяндзы нам сёння патрэбны! Такія ксяндзы патрэбны парафіяльным супольнасцям і вернікам, а асабліва маладому пакаленню. Да такога ідэалу святарства таксама і я стараюся імкнуцца і дарастаць, перажываючы сёлета 10-ую гадавіну прыняцця гэтага “дару і таямніцы”.

Так ужо павялося, што мы ўвесь час бачым недасканаласці, дэфекты і недахопы. Свет, у якім жывём, не спрыяе вернасці: ні шлюбнай, ні святарскай. Неаднойчы на п’едэстал масавай культуры і СМІ ўзводзіцца тыя, хто не мае ніякіх маральных абмежаванняў і не прызнае ніякай святасці. Дадаць яшчэ матэрыялізм, выключную эратызацыю жыцця ва ўсіх яго вымярэннях і раздуты антыклерыкалізм, нават сярод некаторых католікаў.

У сувязі з гэтым кожнаму з нас патрэбна малітва, каб магчы добра выканаць сваё пакліканне.

Зразумела, саміх святароў таксама нельга называць абсалютна бязвіннымі. Разбэшчанасці – як сказаў сам Пан Езус – у свеце нельга пазбегнуць цалкам. Аднак трэба рабіць усё магчымае, каб яна не засланяла дабро і сэнс святарскага служэння.

Перажываючы сёлетнюю ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса, памятайма пра малітву за ўсіх святароў. Ім гэтая малітва вельмі патрэбна! Я ведаю, бо я адзін з іх. Часта ўжо, верагодна, толькі малітва вернікаў і Божая дапамога спрыяюць таму, што стараемся верна трываць у сваім пакліканні і з цяжкасцю змагацца за святасць.

**Дарагія Чытачы!**

**Памятайце, што ад святароў таксама трэба патрабаваць, мабілізаваць іх да дабра, ахінаць малітвай з любові да Хрыста і згодна з разумным сэнсам. У рэшце рэшт, святасць святароў знаходзіцца ў нашым інтарэсе.**




# Ян Павел ІІ і супольнае святарства

Пасяброваў шмат з кім з працаўнікоў. Неаднойчы яны запрашалі мяне ў свае дамы. Ужо будучы святаром і біскупам, хрысціў іх дзяцей і ўнукаў, блаславіў сужэнствы і праводзіў шмат чые пахаванні”. Святы Айцец пазнаў рэчаіснасць жыцця простых людзей, глыбокую чалавечнасць таго жыцця, няглядзячы на прыхільнасці і грахі, прыналежныя аднаму ці другому.

На пасадзе наступніка св. Пятра Ян Павел ІІ шмат сустракаўся са свецкімі асобамі, пачынаючы ад вядомых палітыкаў, заканчваючы простымі работнікамі. Узгадваючы свайго папярэдніка, Бенедыкт XVI аднойчы заўважыў: “Папа Ян Павел ІІ быў, без сумнення, чалавекам, які асабіста сустрэўся ў наш час з самай вялікай колькасцю людзей ва ўсім свеце. Не ўдасца падлічыць тлумы асоб, якім ён паціснуў далонь, да якіх прамаўляў, з якімі маліўся і якіх блаславіў”.

> **Святасць – дар і заданне для свецкіх так жа, як для манахаў і святароў.**

Папа Ян Павел ІІ ведаў жыццё свецкіх людзей. Яшчэ як маладзён вёў актыўнае жыццё, быў камунікатыўнай асобай. Шмат часу праводзіў у асяроддзі інтэлектуалаў, уключыўшыся ў тэатральную дзейнасць. Бачыў праблемы людзей, якія займаліся фізічнай працай, калі сам падчас акупацыі, працаваў у кар’еры, пазней – на хімічнай фабрыцы, у каменяломні.

Гэты перыяд жыцця Ян Павел ІІ у адным са сваіх інтэрв’ю назваў “асаблівым дарам Божага Провіду”. Ён аказаў вялікі ўплыў на фарміраванне будучага Папы. У кнізе “Дар і таямніца” Пантыфік пісаў: “Я спатыкаўся штодзённа з людзьмі цяжкай працы, пазнаў іх асяроддзе, іх сем’і, іх зацікаўленасці, людскую каштоўнасць і годнасць. Асабіста дазнаў ад іх шмат зычлівасці. [...]

Падчас пантыфікату папа Ян Павел ІІ шматразова звяртаў увагу на ролю свецкіх хрысціян у жыцці і дзейнасці Касцёла і свету. У 1987 годзе ён склікаў сінод біскупаў, тэмай разважанняў якога быў ляікат. Узгаданая тэматыка пасяджэнняў была вяртаннем да навучання ІІ Ватыканскага



*Італьянскія зоркі Раміна Паўэр і Аль Бана падчас візіту ў Ватыкане*

*Фота “East News”*

сабору, які таксама засяроджваўся над каштоўнасцю і роляй свецкіх асоб у Касцёле і свеце.

Пасля ўзгаданага сінода Папа выдаў адгартацыю “Christifideles Laici” (“Свецкія католікі”), у якой пісаў так: “Свецкія асабліва пакліканы да таго, каб вярнуць стварэнню ўсю яго першасную вартасць”. Гэта своеасаблівая святарская місія кожнага верніка (“святарская” ад паняцця супольнага, паўсюднага святарства). У дакуменце Ян Павел ІІ заўважае, што праз хрост кожны са свецкіх вернікаў пакліканы да такой місіі. “Удзел свецкіх людзей у патройным пасланніцтве Хрыста менавіта таму, што паходзіць з прыналежнасці да касцёльнай супольнасці, павінен быць перажыты і рэалізаваны ў супольнасці і для супольнасці”. Да таго ж, гэты ўдзел непадзельна звязаны з літургічным святарствам, бо “распачынаецца разам з намашчэннем хросту, развіваецца праз канфірмацыю, а ў Эўхарыстыі знаходзіць спаўненне і поўную сілы падтрымку”.

Важна адзначыць, што папа Ян Павел ІІ разважаў пра святарскую місію свецкіх людзей не як пра сталае знаходжанне ў касцёле на кожным набажэнстве і шматгадзінную адарацыю штодня, а як пра “ўчынкі, малітвы і апостальскія заданні, сужэнскае і сямейнае жыццё, штодзённую працу, адпачынак духа і цела, калі адбываецца ў Духу”. Па яго словах, заангажаванасць у паслугі і заданні Касцёла не павінна прыводзіць да занядбання асноўных абавязкаў у прафесійным, грамадскім, гаспадарчым, культурным і палітычным жыцці.

*Кацярына Паўлоўская*

# Паканаць моцаю духа

Пандэмія прымусіла нас захоўваць дыстанцыю, аднак паспрыяла духоўнаму з'яднанню. З распаўсюджаннем каранавіруса з вуснаў шматлікіх вернікаў пачала гучаць адна і тая ж просьба да Усемагутнага: аб выбаўленні ад заразы. Некаторыя моляцца ўсёй супольнасцю, іншыя аддаюць перавагу індывідуальнай малітве. І калі Ты яшчэ не маеш падобнага намеру, самы час натхніцца прыкладамі і ўпэўніцца, што малітва заўсёды дае добры плён. Хоць не абавязкова такі, якога чакаем.

## Разам дастукацца да Нябёсаў

***Кс. Артур Ляшнеўскі SDB,*** *вікарый парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні*

*Падчас пандэміі наша парафія актыўна ўключылася ў малітоўны "штурм" Неба, просячы ласкі стрымання распаўсюджання інфекцыі. Пасля кожнай св. Імшы вернікі звяртаюцца да Бога спевам суплікацыі і малітвай праз заступніцтва св. Роха і св. Андрэя Баболі. У святыні выстаўлены рэліквіі апошняга, каля якіх людзі могуць памаліцца асабіста і ўзяць адмысловую малітву праз яго заступніцтва з сабой. У дзень літургічнага ўспаміну святога парафія прасіла абараніць наш горад і ўсю краіну ад каранавіруса.*

*14 мая, злучаючыся са Святым Айцом і Паўсюдным Касцёлам, мы далучыліся да малітоўнай акцыі ў інтэнцыі спынення эпідэміі. Увесь дзень вернікі адаравалі Эўхарыстычнага Цара. Дзяжурствы пры святой манстранцыі праводзілі ксяндзы салезіяне і сёстры салезіянкі. Паколькі мы знаходзіліся ў касцёле на працягу ўсяго дня, можам адзначыць, што ля падножжа алтара пачаргова ўкленчыла больш за сотню асоб. Адарацыя скончылася супольным набажэнствам перапрашэння за знявагі, учыненыя Хрысту, і св. Імшой у інтэнцыі спынення эпідэміі. Духоўныя асобы з парафіі ў гэты дзень пасцілі на хлебе і вадзе. Да посту мы таксама заахвочвалі вернікаў. Ведаю, што многія так і ўчынілі.*

*Акрамя таго, у парафіі ад пачатку эпідэміі адгаворваюць Ружанец у інтэнцыі яе спынення. У сувязі з небяспекай заражэння мы пастанавілі маліцца анлайн. Праз акаўнт араторыя ў Instagram штодня ў 20.30 транслюецца ружанцовая малітва пры выстаўленым Найсвяцейшым Сакраманце, да якой далучаецца шматлікая аўдыторыя.*

*Вернікі нашай парафіі глыбока пераканаыя, што даверлівая супольная малітва можа ўчыніць вялікія цуды! Таму мы не знеахвочваемся і працягваем "атакаваць" Нябёсы сваімі маленнямі.*

## Тыя, хто чувае ў кожнай сітуацыі

***Сёстры з Кангрэгацыі Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта,*** *Гродна*

*Разам з сёстрамі мы кожны дзень молімся Вяночкам да Божай міласэрнасці і Ружанцам, галоўным чынам просячы Пана спыніць пандэмію. На працягу 5-ці гадоў праводзім гадзінную адарацыю пасля вячэры, але з пачатку мая перанеслі яе на больш позні час, каб спалучыць з дадатковым Ружанцам у такім неабходным у дадзенай сітуацыі намеры. Прамаўляем таксама просьбы за хворых, за памерлых ад гэтай заразы, за іх сем'і, за медыцынскі персанал, за кіраўнікоў краін, за навукоўцаў, якія працуюць над вакцынай і г. д. Акрамя таго, штодзённа спяваем суплікацыю. Сваю малітву завяршаем спевам трохкратнага назарэтанскага закліку: "Езус, Марыя, святы Юзаф, апекуйцеся намі". Звычайна збіраюцца крыху больш за 10 сясцёр, і павучальна для нас, што старэйшая сястра супольнасці, якой амаль 90 гадоў, заўсёды загадзя прыходзіць у капліцу. Ахвяруем дзённыя цяжкасці і стомленасць у гэтай вячэрняй гадзіне малітвы.*

*Мы таксама актыўна ўдзельнічаем у розных ініцыятывах, напрыклад, у Дні малітвы і посту аб спыненні пандэміі, які адбыўся 14 мая. Многія з нас з 13 мая ўключыліся ў Пампейскую навэнну аб заканчэнні пандэміі. Адпраўляем супольныя навэнны альбо малітвы за канкрэтных хворых на Covid-19. Аказваем духоўную падтрымку, размаўляем з людзьмі, якія перажываюць хваробу, страту кагосьці блізкага, якія баяцца за ўласнае жыццё.*

*Толькі Бог ведае, як "выкарыстаць" нашы малітвы. Можа, наступствы пандэміі былі б яшчэ больш трагічнымі, калі б не маленні вернікаў, а можа, яны павінны звярнуць да Бога людзей, можа, навучыць пакоры, што не ўсё залежыць ад чалавека, можа, духоўна адрадзіць? Тое складанае, што нас спатыкае, нейкія пакуты з пункту гледжання веры і збаўлення могуць прынесці добры плён, таму што Бог нас любіць. Пан Езус з намі ва ўсім, што перажываем. Трэба толькі даверыцца Яму і даручаць сябе кожны дзень. Малітва можа дапамагчы ўбачыць гэта і прыняць.*

*Урэшце, плён малітвы ўжо прыкметны. Перш за ўсё, многія людзі ўбачылі, што на самой справе ў свеце існуе адзін Усемагутны, і мы залежым ад Яго. Не мы ўсемагутныя, а Бог.*

## Моц асабістай ініцыятывы

***Марына Валасар,*** *парафія Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску*

*Калі штодзённа ў краіне пачало фіксавацца больш за 900 новых выпадкаў заражэння Covid-19, я вырашыла, што патрэбна маліцца ў інтэнцыі спынення пандэміі. Узнікла думка па прыкладзе няспыннай малітвы за Беларусь суткамі адгаворваць Ружанец з просьбай аб заканчэнні распаўсюджання каранавіруса. У той жа дзень я напісала пост у Facebook з заклікам да малітвы, на які спачатку адгукнулася ўсяго некалькі чалавек. Але паступова з'явілася яшчэ добраахвотнікі.*

*Абрала менавіта Ружанец па некалькіх прычынах. Па-першае, таму што гэта марыйная малітва. Большасць католікаў і так малілася на ружанцы ў маі, таму я вырашыла, што гэта будзе найбольш аптымальным варыянтам. Па-другое, усе мы ведаем, якой сілай валодае ружанцовая малітва. Нездарма менавіта гэтай малітвай заклікала маліцца Марыя падчас сваіх аб'яўленняў. Па-трэцяе, яна займае ў асноўным 20-30 хвілін. Гэты час, на маю думку, якраз падыходзіць для таго, каб маліцца няспынна.*

*Да Усемагутнага звяртаемся з шэрагам просьбаў. Найперш, молімся аб спыненні пандэміі; просім у Маці Божай заступніцтва для хворых на каранавірус, каб яны як мага хутчэй паправіліся; узгадваем у малітве тых людзей, якія знаходзяцца на мяжы жыцця і смерці, каб Бог змілаваўся над імі; молімся за медыцынскі персанал, каб Госпад падтрымаў іх сваімі дарамі ў барацьбе за жыццё і здароўе пацыентаў.*

*Тэхнічна няспынная малітва выглядае такім чынам: першы ўдзельнік, напрыклад, у 8.00 раніцы распачынае Ружанец і моліцца ў вышэйзгаданых інтэнцыях, атуляючы малітвай менавіта тых людзей, якім патрэбна дапамога ў гэтыя 20-30 хвілін. Наступны чалавек пачынае маліцца ў 8.30. Астатнія, адпаведна, праз кожныя паўгадзіны. Аднак гэта ў ідэале. На практыцы ж пакуль выходзіць маліцца праз кожную гадзіну, а нават і больш, таму што не хапае ўдзельнікаў. На дадзены момант разам са мной моліцца 8 чалавек. Гэта тыя людзі, якія паведамілі аб сваім удзеле. Магчыма, іх больш, але я пра іх не ведаю. Аднак цешуся, што водгук ёсць.*

*Усім вядома, наколькі малітва можа змяніць сэрца чалавека і абставіны жыцця. Вельмі часта мы нават адчуваем, калі за нас хтосьці моліцца. Думаю, малітва можа быць такім духоўным шчытом ад гэтай заразы, а таксама своеасаблівым нябачным лекам для ўсіх, хто ўжо заразіўся. Галоўнае, канешне, маліцца з верай, бо "па веры вашай будзе вам". Да таго ж, вядомы выпадкі, калі людзі пасля малітвы ацаляліся нават ад рака.*

*Канешне, у Бога могуць быць свае планы на час пандэміі. Магчыма, мы ўсе зараз праходзім своеасаблівую пустыню, каб ачысціцца ад розных сваіх хібаў, прынамсі, ад эгаізму. Але можам паспрабаваць атуліць малітвай тых, каму яна вельмі патрэбна. Бог міласэрны. Ён змілуецца над намі. Упэўнена.*

*Малітвы ніколі не бывае зашмат і, на маю думку, яна вельмі матывуе да адказнасці. Калі кожны будзе ўсведамляць, што яго асабістая малітва важная і неабходная, то гэта прынясе свой плён. Натхняе, калі думаеш, што можаш паўплываць на сітуацыю. Канешне ж, з Божай дапамогай.*



## За падтрымкай да святых

Адным са спосабаў духоўнай дапамогі ў сённяшніх абставінах можа быць малітва да святых, якія асаблівым чынам заступаюцца за вернікаў падчас бушуючых эпідэмій. Пры жыцці яны зведалі пакуты ад панавання заразы, а пасля вынясення да хвалы алтара былі паклікаты чуваць над людзьмі ў час эпідэмій.

У першую чаргу, варта звярнуцца з навэннай да **св. Андрэя Баболі.** Святару давялося служыць у Вільні (Літва), калі ў горадзе панавала некалькі небяспечных эпідэмій. Ён апекаваўся хворымі і галоднымі, не зважаючы на тое, што мог заразіцца сам. Традыцыя таксама сцвярджае, што праз заступніцтва св. Андрэя Баболі былі ўратаваны ад заразы Пінск і яго ваколіцы. Знаходзячыся з місіяй на Піншчыне, святар быў закатаваны. Яго цела знайшлі праз доўгі час пасля смерці ў добра захаваным стане. Да труны святара распачалося пілігрымаванне з усёй Пінскай зямлі, а яго цудоўнае ўздзеянне абараніла палешукоў ад хваробы, нягледзячы на тое, што яна ахапіла ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі.

Яшчэ адзін святы, якога варта прасіць аб абароне падчас эпідэмій, – **св. Рох.** Пасля смерці бацькоў, раздаўшы маёмасць бедным, ён накіраваўся з Францыі ў Італію. У адным з мястэчак на шляху пілігрыма ўспыхнула эпідэмія чумы. Рох адразу ўзяўся дапамагаць у мясцовым шпіталі, цалкам прысвячаючы сябе бліжнявым. Дзякуючы сваёй адданасці, атрымаў ад Бога ласку аздараўлення. Калі зараза адступіла, вярнуўся на ранейшую дарогу. Працягваў вяртаць здароўе пацярпелым ад чумы, якіх спатыкаў на далейшым шляху. Дасягнуўшы вечнага горада, дзе найммацней лютавала эпідэмія, канчаткова ўсвядоміў, што дапамога заражаным – гэта яго зямное пакліканне. Місія пілігрыма працягнулася на Небе, адкуль ратаваў вернікаў, што прасілі яго заступніцтва, ад чаргowaга нашэсця – халеры.

## Комплексная дапамога


Пробашч смаргонскай парафіі св. Яна Паўла ІІ кс. Яўген Учкуроніс з мясцовымі медыкамі

Аказваючы духоўную падтрымку, нельга забывацца пра тое, што ў зямным жыцці патрэбна адчувальнае садзеянне. Усведамляючы гэта, ад пачатку распаўсюджання эпідэміі ў нашай краіне духавенства і вернікі лакальнага Касцёла ўключыліся і ў матэрыяльную дапамогу.

Дзякуючы сабраным сродкам парафія св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне перадала мясцовай бальніцы ахоўныя камбінезоны. Збор ахвяраванняў на пакупку тканіны прайшоў і ў смаргонскай парафіі св. Яна Паўла ІІ. У выніку медперсаналу былі перададзены санітарна-гігіенічныя сродкі аховы, у тым ліку бахілы і павязкі.

Некаторыя вырашаюць ахвяраваць не толькі грошы, але і ўласны час. Так вернікі з іўеўскай парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ўласнаручна пашылі неабходнае абмундзіраванне для мясцовых урачоў.

Рознабаковую дапамогу аказвае таксама дабрачыннае таварыства "Карытас". Яго прадстаўнікі перадалі шэрагу шпіталяў канцэнтратары кіслароду і сродкі дэзінфекцыі. Арганізаваны пашыў ахоўных масак, якія зараз вельмі актыўна выкарыстоўваюцца насельніцтвам як сродак бяспекі. Працягваецца аказанне падтрымкі састарэлым і адзінокім людзям у сельскай мясцовасці. "Карытас" дастаўляе пасылкі з харчаваннем, адзеннем, неабходнымі медыцынскімі рэчамі. Акрамя таго, прадстаўнікі дабрачыннай установы не пакідаюць людзей без душэўнай размовы, у якой яны зараз маюць асаблівую патрэбу.

***Спосабаў не застаецца абыякавым у гэты няпросты час шмат. Застаецца толькі абраць найбольш адпаведны.***

*Ангеліна Марцішэўская*

## Слова для жыцця

***Папа Францішак***



*Чытаючы Кнігу Быцця, бачым, як Абрагам жыў малітвай у нястомнай вернасці таму Слову, якое рэгулярна з'яўлялася на яго дарозе. Можам сказаць, што ў жыцці Абрагама вера становіцца гісторыяй. Больш таго, Абрагам сваім жыццём і прыкладам паказвае нам тую дарогу, тое пілігрымаванне, у якім вера становіцца гісторыяй...*

*Навучымся ад Абрагама маліцца з верай, слухаць Пана, накіроўвацца за Ім, весці дыялог, а нават і дыскусію; не баймася спрачацца з Богам, нават сказаць штосьці, што магло б здавацца ерассю. Я шмат разоў чуў людзей, якія казалі мне: "Ведаеш, Ойча, у мяне здарылася штосьці такое, і я разлаваўся на Бога. – Ты адважыўся злавацца на Бога? – Так, я разлаваўся. – Гэта пэўная форма малітвы, таму што толькі сын можа разлавацца на бацьку, а затым сустрэць яго зноў".*

*Давайце вучыцца ад Абрагама слухаць, накіроўвацца, весці дыялог і дыскутаваць, але заўсёды быць гатовымі прыняць Божае слова і ўвесці яго ў жыццё. Давайце навучымся размаўляць з Богам, як сын са сваім бацькам. Выслухоўваць Яго, адказваць, спрачацца, але празрыста – як сын з бацькам. Такой малітве вучыць нас Абрагам.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 03.06.2020*

***Кс. бп Аляксандр Кашкевіч***



*Святы Айцец Францішак у леташнім Пасланні да святароў з нагоды 160-ай гадавіны смерці св. Яна Марыі Віянэя піша аб тым, што кожны святар павінен пастаянна клапаціцца пра 2 фудаментальныя сувязі ў сваёй ідэнтычнасці. Першая і найважнейшая – гэта асабістая сувязь з Хрыстом. Кожны раз, калі святар аддаляецца ад Езуса, калі грэбуе сваімі адносінамі з Ім, паступова згасае і памірае яго душпастырская актыўнасць. Падобна як лямпа гасне, калі ў ёй пачынае знікаць алей, так духоўнае жыццё святара гасне, калі ён не трывае ў Хрысце, як галінка ў вінаграднай лазе.*

*Яшчэ адна важная сувязь для святарскай ідэнтычнасці – гэта сувязь святара з народам. Святы Айцец перасцерагае святароў і просіць іх не замыкацца ў сабе ці ў нейкіх вузкіх групах, не ізалявацца ад іншых людзей, святароў ці супольнасцей. Святар павінен нястомна выходзіць да людзей з пасланнем Добрай Навіны, падобна як Хрыстос быў блізкі да ўсіх, і асабліва чынам выявіў гэтую блізкасць, паміраючы за нас на крыжы.*

*Фрагмент прамовы на заканчэнне навучальнага года ў Гродзенскай ВДС, 04.06.2020*




◆ Абнародавана спецыяльнае пасланне Дыкастэры па служэнні інтэгральнаму развіццю чалавека, у якім Святы Пасад заклікае ўсіх католікаў далучыцца да "Часу стварэння". Гэта штогадовая падзея, якая праводзіцца з 1989 года. Сёлета яна адбудзецца з 1 верасня па 4 кастрычніка. Вернікі заахвочваюцца да малітвы і дзеянняў на карысць Зямлі. У экуменічнай акцыі ўдзельнічаюць Каталіцкі Касцёл, Англіканская Царква, Сусветная Лютэранская Федэрацыя, Сусветная Рада Цэркваў і Сусветны Евангелічны Альянс.

◆ 21 каталіцкая арганізацыя абавязалася інвеставаць у кампаніі, якія падпісалі абавязацельствы пад назвай Каталіцкая інвестыцыйная дэкларацыя (Catholic Impact Investing Pledge). З такой ініцыятывай выступілі 42 рэлігійныя ўстановы розных канфесій у 14-ці краінах свету, якія сумесна вырашылі спыніць фінансаванне "бруднай" энергетыкі (выраб або гандаль выкапнёвымі відамі паліва). У спецыяльнай заяве акцэнт робіцца на "справядлівы і ўстойлівы эканамічны рост".

◆ Святы Айцец Францішак прызначыў навукоўца Эрыка Стывена Ландэра з Масачусецкага тэхналагічнага інстытута ў Кембрыджы (Вялікабрытанія) новым членам Папскай акадэміі навук. 63-гадовы прафесар з'яўляецца вядомым генетыкам, малекулярным біёлагам і матэматыкам. Ён стаў наватарам у вызначэнні, разуменні і біямедыцынскім прымяненні геному чалавека. У цяперашні час Папская акадэмія навук аб'ядноўвае 80 навукоўцаў розных спецыяльнасцей з усяго свету (не толькі католікаў).

◆ Ва Украіне выдадзена вядомая кніга "Каталіцызм: падарожжа да сэрца веры" амерыканскага прапаведніка, пісьменніка і тэолага б-па Роберта Баррана. Чытачу прапануецца па-новаму адкрыць і паглыбіць хрысціянскую веру, азнаёміцца з багаццем Хрыстовай Царквы і яе вялікім укладам у развіццё сусветнай цывілізацыі. Гэтая кніга будзе асабліва карыснай для тых, хто шукае больш глыбокага разумення таго, у што вераць католікі. Друкаванае выданне з'яўляецца часткай маштабнага мультымедыйнага праекта евангелізацыі "Каталіцызм", што таксама ўключае дакументальны фільм і вучэбную праграму.

◆ У Польшчы адбылася III Пілігрымка сем'яў страчаных дзяцей. У ёй удзельнічаюць сем'і, якія страцілі сваіх дзяцей: ненароджаных і народжаных, без увагі на іх узрост і абставіны смерці. Бацькі, што сутыкнуліся з трагедыяй, могуць упісаць імя дзіцяці ў спецыяльную Кнігу страчаных дзяцей на старонцы du.milosierdzie.pl. Кожны месяц у санктуарыі Божай міласэрнасці ў Кракаве-Лагеўніках адпраўляецца св. Імша за бацькоў у жалобе пасля смерці дзіцяці.

vaticannews.va; credo.pro; niedziela.pl

# Хрыстос іх выбраў, аказваючы вялікую ласку

● праця́г з папярэдняга нумара

## 35 гадоў святарства


Кс. Здзіслаў Пікула SDB

*Гісторыя майго паклікання пачалася яшчэ ў дзяцінстве. Памятаю, што ад малога меў вельмі добры і красамоўны прыклад веры з боку бацькоў, бабулі і дзядулі. Калі яшчэ не хадзіў у школу, бабуля, якая вучыла мяне ружанцу, малітвам і вадзіла ў касцёл, моцна захварэла. Мела слабое сэрца і з-за гэтага моцна плакала. Мне было вельмі шкада яе, таму пайшоў да Пана Езуса і сказаў: "Калі мая бабуля выздаравее і будзе жыць далей, я стану ксяндзом". Гэтае абяцанне запомніў назаўсёды.*

*А яшчэ мама расказала такую гісторыю. У 9-месячным узросце ў мяне былі сур'ёзныя праблемы з лёгкімі. Урачы сказалі, што калі вылечуся, гэта будзе цуд. Пасля такіх прагнозаў мама ў роспачы занесла мяне ў касцёл, паклала на алтар Маці Божай каля фігуры Найсвяцейшай Панны Марыі і сказала: "Марыя, я аддаю табе маё дзіця, рабі з ім, што хочаш!". У той жа час святар цэлебраваў за мяне св. Імшу, пасля чаго мой стан значна палепшыўся.*

*Я паступіў у семінарыю і, будучы яшчэ клерыкам, ездзіў на місіі ў Эквадор і Балівію. Гэта было ў 1975 годзе, калі прыпадаў 100-гадовы юбілей салезіянскіх місій. Настаяцелі ў Польшчы сказалі, што 100 святароў могуць распачаць місійную паслугу. Клерыкам дазвалялася ехаць толькі пасля другога курса філасофіі, а я адно прайшоў навіцыят. Таму напісаў ліст ксяндзу генералу з просьбай дазволіць мне паехаць. Тады ж напісаў ліст і да св. Яна Боско з просьбай аб заступніцтве і дапамозе, а мой спаведнік, які ў той час з'язджаў у Турын, аднёс яго ў святое месца. І я атрымаў дазвол.*

*На місіі ехаў з думкай аддаць там сваё жыццё за веру, за Хрыста, за крыж. Але Божая воля была іншая. Прапрацаваў 5 гадоў: два з паловай гады ў Эквадоры, два з паловай – у Балівіі. Там пачаў вывучаць філасофію, але мне сказалі, што ў тых умовах працягласць поўнага навучання – 11 гадоў, тады як у Польшчы можна скончыць вучобу за 6 гадоў. Таму я вырашыў вярнуцца на Радзіму, каб там стаць святаром, а потым зноў прыехаць, бо ведаў, што мяне будуць чакаць.*

*Але ўсё склалася зусім інакш. Я ўжо рыхтаваўся да выезду ў Эквадор, калі ў Беларусі пачалі адкрываць касцёлы, і мяне папрасілі дапамагчы. Быў 1989 год. Я атрымаў дэкрэт, што накіроўваюся ў парафію ў Варнянах, і праслужыў там амаль 25 гадоў. А цяпер ужо 6-ты год служу ў Дзятлаве. Мне тут вельмі падабаецца. З людзьмі добра працуецца, моладзь і дзеці вельмі ўцягнутыя ў жыццё парафіі.*

*Хоць на працягу ўсіх гэтых гадоў мне прыйшлося сутыкнуцца з мноствам праблем, вельмі ўдзячны св. Яну Боско, што праз яго заступніцтва маю ласку працаваць з дзецьмі і моладдзю. Усе св. Імшы, пропаведзі, асабістыя сустрэчы з людзьмі – маё найвялікшае багацце. Шчаслівы, што магу аддаваць сябе іншым праз Езуса Хрыста, працаваць для іх. Я нават узяў пастанову, што хачу ахвяраваць усё, што напаткала мяне ў жыцці, дзеля таго, каб памерці ў Беларусі і быць тут пахаваным. Цешуся, што не адзін, што заўсёды адчуваю прысутнасць Хрыста, што атрымліваю тое, аб чым прашу Яго і Найсвяцейшую Маці.*

*У гэтым юбілейным годзе я асаблівым чынам малюся аб тым, каб бацькі давалі добры прыклад веры сваім дзецям, а таксама аб навяртанні грэшнікаў, таму што бачу, колькі ў свеце няверуючых людзей. Асабліва цяпер, калі многія хварэюць на каранавірус. Заўважаю, што і ў прэсе, і на тэлебачанні можна ўбачыць шмат розных выказванняў, парад, але людзі забываюць, што можна звярнуцца з просьбай аб спыненні гэтай эпідэміі да Бога. Я ўпэўнены і ўвесь час кажу аб гэтым сваім парафіянам, што калі мы ўсё даручым Езусу Хрысту, то будзем здаровыя. Не трэба баяцца, памятаючы словы Збаўцы: "Не бойцеся, я з вамі!". Таму мы ў Дзятлаве ўзялі пастанову, і кожны дзень падчас св. Імшы ў касцёле ўсе ляжым крыжам і спяваем суплікацыю "Святы Божа, Святы моцны", каб Бог вызваліў нас ад хваробы.*

*Калі падсумаваць усе гады майго служэння, я найбольш удзячны Богу за тое, што стаў святаром. Таксама ўдзячны ўсім людзям, дзецям і моладзі, усім, з кім сустракаўся ў жыцці, з кім мог размаўляць, каго мог злучаць праз сакраманты з Панам Езусам. Больш за ўсё мяне цешыць тая дабрыня, павага і памяркоўнасць, якія атрымаў ад іншых. Гэта вельмі дапамагае трываць у святарстве.*

## 20 гадоў святарства


Кс. Павел Калеснік

*Маё пакліканне да святарства нарадзілася неяк само па сабе. У дзяцінстве ездзіў да бабулі ў в. Новы Двор, што ў Шчучынскім раёне. Менавіта там стаў міністрантам і належаў да літургічнай службы алтара не адзін год. Увесь гэты час, камунікуючы з мясцовым пробашчам, я бачыў прыклад добрага, руплівага, адказнага душпастыра, і мне вельмі імпанавала такая пастава.*

*Пастулова прыйшоў да высновы, што таксама хачу пайсці шляхам святарства, і распачаў вучобу ў семінарыі. Гэта быў час, калі я і мае аднакурснікі распазнавалі сваё пакліканне, праходзілі розныя, часам цяжкія, этапы, асэнсоўвалі саміх сябе і сваё месца ў служэнні Богу. У выніку мы дасягнулі доўгачаканай кульмінацыі – святарскіх пасвячэнняў – і пачалі прымяняць атрыманыя ў семінарыі тэарэтычныя веды на практыцы.*

*Галоўнае ў святарстве і душпастырскай паслузе – дапамагаць людзям знайсці Бога, абвяшчаць ім Евангелле, бо кожны святар пакліканы да служэння на хвалу Божую і дзеля збаўлення душ. Канешне, гэты шлях зусім няпросты, ён поўны і перашкод, і спакус. Але калі цалкам даверыцца Хрысту і з годнасцю Яму служыць, усё атрымаецца.*

*Я лічу, што святар павінен быць гатовы да выканання самых розных заданняў, якія ставіць перад ім Касцёл, і перш за ўсё – да ратавання чалавека з няволі граху праз паслугу міласэрнасці. Каб быць душпастырам, якога будуць паважаць і цаніць, трэба шчыра любіць людзей, падыходзіць да кожнага з дабрынёй і адкрытым сэрцам, быць прыкладам для сваіх парафіян. Таму заўсёды неабходна імкнуцца ўдасканальваць самога сябе і не стаяць на месцы, паглыбляць свае веды, узрастаць інтэлектуальна і духоўна, каб было што перадаць людзям. Зараз, вяртаючыся думкамі ў семінарыйныя гады, разумею, што трэба было вучыць не толькі тое, чаго ад нас патрабавала праграма, але старацца ўзяць яшчэ больш, бо з поўным багажом ведаў ісці праз жыццё куды лягчэй. Тады здавалася, што пэўныя рэчы ніколі не спатрэбяцца, а ў выніку прыйшлося іх наганяць.*

*Не толькі ў гэтым юбілейным годзе, але заўсёды памятаю ў малітве тых ксяндзоў, якія былі для мяне прыкладам – кс. Тадэвуша Крыштопіка, дзякуючы якому стаў міністрантам, пробашча кс. Юзафа Трубовіча, а таксама тых, хто дапамагаў падчас вучобы ў семінарыі – кс. Антонія Самілу, кс. Юзафа Багдзевіча. Вядома, малюся за бацькоў і за родных, якія адышлі па вечную ўзнагароду да Пана. Усе яны нават у самыя цяжкія моманты былі маёй апорай, дапамагалі і словам, і ўчынкам.*

Кінга Красіцкая



# КАБ БЫЛІ СВЯТЫМІ

● працяг са с. 1

**Як пакліканыя на службу Пану клапоцяцца аб сваёй святасці? Як свецкія людзі могуць выказаць клопат пра душпастыраў? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае а. д-р Анджэй Шчупал CSsR, духоўны айцец святароў Гродзенскай дыяцэзіі.**

***– А. Анджэй, раскажыце, калі ласка, гісторыю святкавання Дня малітвы аб святасці святароў. Ці можна назваць такую сустрэчу фармацыйнай?***

– Сусветны дзень малітвы аб святасці святароў быў устаноўлены Святым Айцом Янам Паўлам ІІ у 1995 годзе. У гэты дзень духавенства збіраецца на супольных малітвах, адарацыях і канферэнцыях. Кангрэгацыя па справах духавенства таксама прапануе арганізоўваць малітвы аб асвячэнні святароў у парафіях дыяцэзіі. Гэты дзень павінен таксама ўсвядоміць вернікам іх адказнасць за якасць святарскіх пакліканняў, а таксама заахвоціць маліцца за пастыраў і практыкаваць у іх інтэнцыі дадатковыя формы ўтаймавання альбо адрачэння, такія як пост, міласціна альбо іншыя ўчынкі міласэрнасці.

***– Святы Айцец Францішак у апостальскай адгартацыі “Evangelii gaudium” звярнуў увагу, што ключом і прынцыпам службовага святарства не з’яўляецца ўлада, разуметая як панаванне, але ўлада ўдзялення сакраманту Эўхарыстыі. Адсюль аўтарытэт, які заўсёды застаецца на службе людзям. Якія каштоўнасці і мэты асабліва важныя ў тым, каб быць старанным, добрым святаром сёння?***

– Папа Францішак часта паўтарае, што ксяндзы павінны рабіць усё магчымае, каб заўсёды заставацца побач з вернікамі. Павінны нястомна выходзіць ім насустрач, шукаць іх. Езус гаворыць, што ў Касцёле, перш за ўсё, той, хто кіруе, павінен быць “як той, хто служыць” (параўн. Лк 22, 27), а той, хто першы, павінен быць “слугою ўсіх” (параўн. Мк 9, 35). Абмыццё ног – гэта сакрамант хрысціянскай улады. Духу служэння супрацьпастаўляецца імкненне да панавання, звычка навязваць іншым уласную волю ці ўласнае бачанне адносна таго, як паступаць у жыцці. Адным словам, аўтарытарызм. Езус сказаў сваім апосталам, каб былі падобнымі на “авечак сярод ваўкоў”.

Праз св. Імшу ксёндз дакранаецца да ўсяго свету. Як Майсей і як сам Езус, святары нанова адкрываюць моц свайго заступніцтва і пасрэдніцкую функцыю паміж Богам і чалавекам. Святар, пробашч і тым больш біскуп цэлебруе такім чынам св. Імшу, а потым далей моліцца, прапаведуе, спавядае, прымае людзей, наведвае хворых; яго дзень таксама з’яўляецца Эўхарыстыяй. Таму, як падкрэслівае ў Лісце да святароў на Вялікі чацвер 2000 года св. Ян Павел ІІ, “перажыванне штодзённай паслугі становіцца для святара магчымым толькі ў сувязі з клопатам аб асабістым асвячэнні, якое заўсёды павінна грунтавацца на звышнатуральнай сіле сакрамантаў Найсвяцейшай Эўхарыстыі і пакаяння. Эўхарыстыя – гэта цэнтр, з якога ўсё выпраменьваецца і да якога ўсё вядзе. [...] На працягу стагоддзяў многія святары знаходзілі ў Эўхарыстыі суцяшэнне, абяцанае Езусам у дзень Апошняй Вячэры, спосаб пераадолення адзіноты, дапамогу ў перажыванні цярпенняў, ежу, што дае сілы зноў вырушыць у дарогу пасля кожнага расчаравання, унутраную энергію, якая дазваляе захоўваць вернасць свайму выбару”. П’ер Оліван, вялікі майстар духоўнага жыцця, заўсёды паўтараў: “Раніцай падчас св. Імшы я святар, а Езус – ахвяра; цягам дня Езус з’яўляецца святаром, а я – ахвярай”. Так святар пераймае Добрага Пастыра, які сапраўды аддае жыццё за сваіх авечак.

***– Ад святароў – тых, хто абвяшчае Божае слова, цэлебруе святыя сакраманты, служыць праваднiком і пастырам Божага народа – больш за ўсё патрабуецца. На чым грунтуецца сталая святарская фармацыя? Чаго канкрэтна датычыць гэты працэс бесперапыннага фарміравання? Якія ахоплівае сферы?***

– Першая крыніца фармацыі святароў – цэлебрацыя Эўхарыстыі, на якую я ўжо звяртаў увагу, і эўхарыстычная адарацыя. Менавіта таму Святы Айцец Ян Павел ІІ звяртаецца да святароў з такой настойлівай просьбай: Найсвяцейшую Эўхарыстыю трэба з любоўю захоўваць у табернаклі як духоўнае сэрца манаскай і парафіяльнай супольнасці. Без эўхарыстычнага культу як пульсуючага сэрца парафія гіне.

Другім сродкам святарскага станаўлення з’яўляецца штодзённая асабістая малітва: на Брэвіярыі, медытацыйная, ружанцовая, Вяночкам да Божай міласэрнасці... Пій XII так звяртаўся да духавенства Рыма: “Калі хочаце, каб вернікі ахвотна і набожна маліліся, апярэджвайце іх у касцёле сваім прыкладам, молячыся ў іх прысутнасці. Святар, які стаіць на каленях перад табернаклем у годнай і глыбока засяроджанай паставе, з’яўляецца для людзей павучальным прыкладам, напамінам і заахвочваннем да «малітоўнага спаборніцтва»”.

Яшчэ адным сродкам фармацыі з’яўляецца добрая падрыхтоўка да святых сакрамантаў, казанняў, катэхізацыі дзяцей і моладзі. Заступнік маралістаў, самы руплівы доктар Касцёла і заснавальнік рэдэмптарыстаў св. Альфонс Лігуоры часта падкрэсліваў, што калі б пробашчы добра выконвалі свой абавязак, увесь свет быў бы асвечаны. Менавіта таму катэхізацыя, а таксама гаміліі падчас св. Імшы настолькі важныя і неабходныя. Так шмат сэрцаў, якія чакаюць Евангелля. Прапаведуючы Божае слова іншым, святар таксама паглыбляецца і ўзмацняецца ў сваім пакліканні.

Сярод розных паслуг, якія выконвае святар “in persona Christi”, здзяйсненне сакраманту пакаяння – слуханне споведзі, як кажуць вернікі – належыць, несумненна, да самых складаных і цяжкіх. Аднак плён гэтай паслугі надзвычайны. Святар, спавядаючы іншых, сам асвячаецца. Ён таксама павінен кожныя два тыдні асабіста карыстацца з сакраманту пакаяння і духоўнага кіраўніцтва.

Акрамя таго, святары часта сустракаюцца на супольнай малітве, перажываюць штомесячныя дні засяроджання і ўдзельнічаюць у штогадовых святарскіх рэкалекцыях.

***– У чым павінна выражацца святарская святасць?***

– Усе хрысціяне моцай сакраманту хросту пакліканы да святасці, але святары асаблівым чынам абавязаны да гэтага. Вялікі чацвер нагадвае душпастырам пра абавязак імкнуцца да святасці, каб быць слугамі святасці ў адносінах да людзей, даручаных іх клопату. У дзень свайго пасвячэння кожны святар пачуў з вуснаў біскупа словы, якія абавязваюць яго быць святым: “Няхай святасць твайго жыцця стане крыніцай радасці для паслядоўнікаў Хрыста”. І ў апостальскай адгартацыі “Pastores Dabo Vobis” св. Ян Павел ІІ напісаў: “Новая евангелізацыя патрабуе новых абвяшчальнікаў Евангелля, г. зн. святароў, якія стараюцца перажываць сваё святарства як асаблівы шлях да святасці”.

Святасць патрабуе, каб святар быў цесна з’яднаны з Богам Айцом і Езусам Хрыстом. Гэта ажыццяўляецца шляхам належнага ўдзялення сакрамантаў, цэлебрацыі Літургіі гадзін і глыбокага перажывання свайго святарства. Яго паслуга мае на мэце збаўленне і асвячэнне вернікаў. Такім чынам, святару неабходна валодаць высокай ступенню звышнатуральных цнотаў і весці глыбокае ўнутранае жыццё. Таму ён павінен не толькі ведаць, чым з’яўляецца духоўнае жыццё, але і сам сведчыць аб тым, што жыве Божым жыццём кожны дзень і што ажыццяўляе розныя этапы духоўнага жыцця, такія як ачышчэнне, асвячэнне і містычнае з’яднанне з Богам.

Самае галоўнае, каб святар умеў любіць Езуса і пастаянна злучацца з Ім у малітве, а таксама любіць людзей і “спальваць” сябе ў любові да іх. Святар становіцца ўсё больш і больш святым, калі аддае сваё жыццё іншым. Адзіным правільным вымярэннем святарскага паклікання з’яўляецца радыкалізм, а не палавінчатасць у адданасці Хрысту. Менавіта таму такое важнае значэнне мае жыццё ў цэлібаце.

***– Сёння нялёгка быць святым святаром. Часы, у якія мы жывем, не спрыяюць гэтаму, таму што яны адзначаны спецыфічнымі, часта вельмі ўмелымі нападамі на святароў. Дык што павінны рабіць святары, каб супрацьстаяць гэтым нападам? Што можа зрабіць кожны вернік?***

– У сітуацыі глабальнага зла, якое паўсюдна нас атачае, неабходна быць аўтэнтычнымі святарамі. Ніколі не саромецца сваёй веры і не прыпадабняцца да свету, які так часта скажоны грахамі. Неабходна, каб святар быў “соллю зямлі і святлом свету” (параўн. Мц 5, 13–16). Праследаванні і напады павінны стаць прычынай яго духоўнага ўмацавання і ўдзелу ў цярпеннях і праследаваннях, якія перажываў Хрыстос. Адносна ганіцеляў трэба паводзіць сябе спакойна і мякка, не “аддаючы злом за зло ці знявагай за знявагу” (параўн. 1 П 3, 9). Падказкай тут будуць словы св. апостала Пятра: “Рабіце гэта лагодна, з бояззю Божай і добрым сумленнем, каб у тым, за што абгаворваюць вас як злачынцаў, былі асаромлены тыя, хто ганіць ваша добрае жыццё ў Хрысце” (1 П 3, 16).

Кожны вернік павінен абараняць святароў, а таксама ахінаць іх штодзённай малітвай.

***– Невыпадкова Сусветны дзень малітвы аб святасці святароў штогод адзначаецца ва ўрачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. У гэты дзень спяваем, каб Езус “учыніў сэрцы нашыя да свайго падобнымі”. Так вернікі моляцца не толькі за сябе, але асабліва за святароў, каб Хрыстос перамяняў іх сэрцы на падабенства свайго Сэрца. Чаму так важна не толькі ў гэты дзень, але і на працягу ўсяго года маліцца за святароў, а таксама аб добрых і святых душпастырах?***

– Так, гэта праўда, што не толькі ў гэты дзень неабходна маліцца за ксяндзоў, але і штодзённа. Шырокую вядомасць мае апостальства “Маргарытка” – групы вернікаў, якія кожны дзень моляцца дзесяткам Ружанца за аднаго з абраных душпастыраў.

Кожны святар узяты сярод людзей і для людзей прызначаны. Таму ён пастаянна мае патрэбу ў малітве, каб узрастаць у святасці і, адпаведна, у пастырскай любові да даручаных яму вернікаў.

*Кінга Красіцкая*



**CatholicNews.by**

### *2 новыя святары ў Віцебскай дыяцэзіі*

***Біскуп Алег Буткевіч удзяліў прэзбітэрскае пасвячэнне Іллі Саўчанку з супольнасці айцоў марыянаў і Яўгену Шымановічу.***

*Знакавая падзея адбылася 23 мая ў касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім. На ўрачыстасць прыбылі Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек, айцы марыяне, якія служаць у Беларусі, святары з Віцебскай дыяцэзіі, а таксама мясцовыя вернікі і госці з іншых парафій.*

*Пасля завяршэння абраду пасвячэння новапрэзбітэры дзякавалі Богу за прыняты дар, а таксама ўзгадалі сваіх бацькоў, святароў і выхавацеляў, якія дапамагалі ім у распазнанні паклікання.*



### *Малітва перад гандлёвым цэнтрам?*

***Аддзел фірмы IKEA у Вецлары (Германія) дазволіў мусульманам карыстацца тэрыторыяй перад магазінам для культурных мэт.***

*Захоўваць сацыяльную дыстанцыю паміж людзьмі для супольнай малітвы аказалася лягчэй на вялікай паркоўцы, чым у мясцовай мячэці. Аднак IKEA не мае аналагічнай адкрытасці на хрысціян. У Польшчы з працы быў звольнены мужчына, які, спасылаючыся на каталіцкую веру, выступаў супраць прапаганды гомасексуалізму і зацытаваў на віртуальным форуме фірмы Святое Пісанне.*



### *“Супрацькавідныя рыцары”*

***Прэзідэнт Італіі Серхіа Матарэла ўдастоіў дзяржаўных узнагарод 57 чалавек, якія прынеслі карысць краіне падчас пандэміі.***

*Сярод іх медсястра, якая заснула на камп’ютарнай клавіятуры, таксіст, які перавёз за 1300 км уласным коштам хворую на рак дзяўчынку, карабінер, які ахвяраваў усю зарплату і інш.*

*У шэрагу ўзнагароджаных шмат урачоў, у тым ліку тых, хто вярнуўся да актыўнай працы з пенсіі, замяняючы калег, якія трапілі ў каранцін (асабліва ў чырвонай зоне); супрацоўнікі дамоў састарэлых, якія засталіся ва ўстановах, каб ахоўваць сваіх падапечных; цэлыя сем’і, якія гатавалі бясплатныя пасілкі для медыцынскага персаналу; а таксама навукоўцы і даследчыкі на пенсіі.*




# ПІРСІНГ, ТАТУІРОЎКІ, МОДНЫЯ ЎБОРЫ І МАКІЯЖ... ЗАБАРАНЯЦЬ?



*Кс. Павел Салабуда,*
*псіхолаг*

Самым складаным узростам у дзяцей бацькі і выхавацелі лічаць перыяд сталення. Гэта час, калі малады чалавек змагаецца за незалежнасць і індывідуальнасць. Такая барацьба часцей за ўсё выяўляецца ў зменах знешняга выгляду, што для дарослых вельмі часта бывае непрымальным. Напрыклад, малады чалавек пачынае задумвацца аб пірсінгу ў носе альбо некалькіх завушніцах у вушах, аб пафарбаваных валасах або татуіроўцы на перадплеччы. Падобныя паводзіны нярэдка становяцца прычынай для спрэчак. Падлетак змагаецца за іншасць, а бацькі хочуць "нармальнасці".

Для падлетка важна прыняцце аднагодкаў, дарослыя ж задумваюцца аб усрыняцці іх дзяцей усім грамадствам. Самае галоўнае правіла – не аказваць ціску: гэта не з'яўляецца выхаваўчым метадам. Што рабіць, калі малады чалавек заяўляе, што хоча пафарбавацца ў блакітны колер, зрабіць татуіроўку ці ўставіць завушніцу? Прапаную некалькі парад для бацькоў, якія дапамогуць ім захаваць раўнавагу і не сапсаваць адносіны са сваімі дзецьмі.

1. Бацькам варта патлумачыць дзіцяці, што яны не маюць нічога супраць некаторых змен у яго знешнасці, але пры гэтым звярнуць увагу, што вельмі важна, каб гэтыя змены не выклікалі непрыемнасцей, напрыклад, у школе. У любой навучальнай установе заўсёды ёсць пэўныя абмежаванні. Можна таксама распавесці гісторыю аб сваім жаданні змяніць знешні выгляд у школе і аб тым, што ў дарослым узросце да гэтых змен ужо зусім іншы падыход.

2. Калі дзіця настроена рашуча, для некаторых эксперыментаў, напрыклад, афарбоўвання валасоў або нанясення пэўнага макіяжу, можна прапанаваць час канікул. Варта адзначыць, што татуіроўкі і пірсінг могуць нанесці шкоду здароўю, а выдаліць іх будзе значна складаней і значна даражэй. У размовах з маладымі людзьмі неабходна падкрэсліваць вельмі важную ролю здароўя ў жыцці, заахвочваць больш адказна ставіцца да сябе.

3. Трэба размаўляць пра любыя змены, якія адбываюцца з маладым чалавекам. Так ён зможа навучыцца ў бацькоў, як трэба апранацца і што адзенне павінна быць падабрана адпаведна месцу (напрыклад, па-рознаму апранаемся ў школу, у касцёл, у госці да знаёмых ці ў спартзалу). Бацькам таксама варта згадзіцца на любімыя джынсы дзіцяці альбо дазволіць яму апранущца на сустрэчу з сябрамі так, як хоча. Густ падлеткаў вельмі часта змяняецца, а бацькі як назіральнікі могуць пэўным чынам карэкціраваць яго.

4. Калі дзяўчаты хочуць карыстацца касметыкай у непаўналетнім узросце, варта пагаварыць пра тое, ці могуць яны дазволіць сабе выдаткаваць уласныя кішэнныя грошы на яе і ці не сапсуе такі макіяж іх натуральную прыгажосць. Бацькі, а ў дадзеным выпадку маці, павінны расказаць і растлумачыць дачцэ пра свае густы, перавагі ў фарбаванні, а таксама пра тое, колькі клопатаў і праблем са здароўем можа выклікаць даволі ранняе і актыўнае фарбаванне.

5. Не трэба супярэчыць таму, што выгляд падлетка – яго справа, бо гэта сапраўды так. Але ў атмасферы разумення і размоў прасцей дамовіцца аб магчымых зменах у яго жыцці. Таксама варта прыглядзецца, кім з'яўляюцца сябры вашага дзіцяці і дзе яно праводзіць вольны час.

Душпастыру, які займаецца моладдзю ў парафіі і знаходзіцца побач з маладымі людзьмі, варта адзначаць падобныя праяўленні барацьбы за індывідуальнасць у выхаванцаў. Часцей падкрэсліваць у размовах дар цела і жыцця, дадзены Богам, прыгадваць вучэнне Касцёла і каштоўнасці, якія павінен выбіраць чалавек. Правільна падрыхтаваная катэхеза на гэтую тэму альбо няэмушаныя бяседы з моладдзю дапамогуць ім стварыць адзіны і сапраўдны вобраз сябе як асобы, не губляючы індывідуальнасці і ўсведамлення, што з'яўляюцца любімымі Богам.




## *Чаму ў касцёле трэба надзяваць маску?*

*Нягледзячы на тое, што боль ад адносна раптоўнай страты блізкіх з прычыны дыхальнай недастатковасці, выкліканай вірусам SARS-CoV-2 (у тым ліку і ў сукупнасці з іншымі вірруснымі і бактэрыяльнымі інфекцыямі), закрануў ужо вельмі многіх, на жаль, не ўсе людзі разумеюць неабходнасць выкарыстання любых сродкаў індывідуальнай засцярогі органаў дыхання (марлевых павязак, медыцынскіх масак, рэспіратараў, ізалюючых шлемаў). Часта нежаданне іх насіць мае самую разнастайную матывацыю.*

*Варта нагадаць, што перадача віруса SARS-CoV-2 магчымая не толькі ў разгар клінічных праяў, калі чалавек адчувае класічныя сімптомы, але і ў інкубацыйны перыяд Covid-19, а таксама на стадыі ранніх клінічных сімптомаў (якія не заўсёды могуць быць прыняты пад увагу з боку пацыента). Акрамя таго, можна быць яшчэ і бессімптомным носьбітам. Калі носіш сродкі індывідуальнай засцярогі органаў дыхання, абараняеш не толькі сябе, але і людзей, з якімі кантактуеш. Да ўвагі: згодна з праведзенымі эксперыментальнымі даследаваннямі, прамысловыя медыцынскія маскі паказалі сябе ў 3 разы больш эфектыўнымі, чым самаробныя.*

*Вернікам, якія прысутнічаюць у святыні, настойліва рэкамендуецца насіць сродкі індывідуальнай засцярогі органаў дыхання. Праз гэты жэст у сённяшніх умовах здзяйсняецца выкананне запаведзі "любі бліжняга твайго, як самога сябе".*

*Ігар Цярэшчанка,*
*урач-паталагаанатам*
***Паводле catholic.by***




*"Ён сам, у сваім целе ўзнёс грахі нашыя на дрэва, каб мы, пазбыўшыся грахоў, жылі дзеля справядлівасці. Ранамі Яго вы аздароўленыя"*
*(1 П 2, 24)*

### АЗДАРАЎЛЕННЕ ДУШЫ І ЦЕЛА

Перад абліччам фізічных пакут і хваробы, асабліва хранічнай ці, здавалася б, невылечнай, многія людзі адчуваюць псіхічны зрыў і губляюць надзею. Некаторыя ўпадаюць у глыбокую дэпрэсію, задаючыся пытаннем: "Чаму гэта здарылася са мной? Чаму менавіта я павінен так пакутаваць? Дзе прычына майго болю?". Шукаючы адказы на падобныя пытанні, знаходзім у Божым слове некаторыя перадумовы праблем са здароўем. Перш за ўсё, гэта грэх. "Як праз аднаго чалавека грэх увайшоў у свет і праз грэх – смерць, так і смерць перайшла на ўсіх людзей, таму што ўсе зграшылі" (Рым 5, 12). У выніку непаслухмянасці Богу і ўстаноўленаму Ім закону чалавек страціў лучнасць са Стварыцелем і наклікаў на сябе праклён смерці і цярпення. Кожная правіна, з якой мы не паспавядаліся, не пакаяліся, за якую не ўзнагародзілі, мае наступствы, якія могуць доўжыцца пакаленнямі і выклікаць генетычныя захворванні.

Часта ігнаруемай чалавекам прычынай хвароб з'яўляюцца грахі языка. Яшчэ св. Якуб адзначаў, наколькі смертаноснымі могуць быць словы: "Аднак ніхто з людзей не можа ўтаймаваць язык – нястрымнае зло, поўнае смяротнай атруты. Ім мы бласлаўляем Пана і Айца і ім праклінаем людзей, створаных на Божае падабенства" (Як 3, 8–9). Чалавечы дух, душа і цела трыадзіныя, непарыўныя і цесна звязаныя паміж сабой, дзе адно мае канкрэтны ўплыў на другое. Так жорсткія выказванні могуць раніць знутры і забіваць душу. Такія раны, як зараза і разлажэнне, западаюць глыбока ў падсвядомасць, а дакучлівыя думкі крыўды, непрабачэння, прыніжэння і самаабвінавачвання выклікаюць пачуцці недахопу любові і прыняцця, парушаючы працу мозгу. Ён, у сваю чаргу, аддае неўпарадкаваны імпульс у касцяны мозг, дзе ўтвараюцца новыя, але ўжо заражаныя клеткі крыві. Такім чынам, негатыўныя словы рэальна выяўляюцца ў розных формах парушэнняў здароўя. "Але тое, што выходзіць з вуснаў, паходзіць з сэрца, і гэта робіць нячыстым чалавека. Бо з сэрца выходзяць ліхія думкі, забойствы, чужаложства, распуста, крадзеж, фальшывыя сведчанні, блюзнерствы. Гэта і ёсць тое, што робіць нячыстым чалавека" (Мц 15, 18–20).

Яшчэ адной прычынай псіхічных і фізічных недамаганняў з'яўляецца ўплыў нячыстых духаў. Паводле прыкладаў з Бібліі, дэманы могуць выклікаць розныя хваробы, такія, як слепата, немата (параўн. Мц 12, 22), немач і праблемы з пазваночнікам (параўн. Лк 13, 10–13), эпілепсія (параўн. Мц 17, 15), кульгавасць і параліч цела (параўн. Дз 8, 5–8). У незлічоных цудах Езуса аздараўленне адбывалася ў выніку выгнання дэманаў з чалавека: "І загадаў яму Езус, і выйшаў з яго злы дух, і ад гэтай гадзіны хлопец стаў здаровым" (Мц 17, 18), "Калі настаў вечар, прывялі да Яго многіх апанаваных злымі духамі. А Ён словам выгнаў духаў і аздаравіў усіх хворых" (Мц 8, 16). Экзарцысты пацвярджаюць, што, вызваліўшыся ад нячыстых духаў, чалавек можа пазбавіцца ад бясплоддзя, рака, хвароб сэрца, сіндрому стомленасці і многіх іншых праблем са здароўем.

Бывае і так, што хвароба не выклікана ні адным з вышэйзгаданых фактараў, але "сталася гэта дзеля таго, каб выявіліся справы Божыя" (параўн. Ян 9, 3). Незалежна ад паходжання і формы дрэннага самаадчування, нельга адчайвацца. Заўсёды варта памятаць, што Божая воля заключаецца ў тым, каб чалавек наблізіўся да Яго і быў выратаваны. Бог усім даў надзею і з усякага зла можа вынесці дабро. Гэтай надзеяй з'яўляецца Езус Хрыстус, цудоўны лекар, які ўжо заплаціў самую высокую цану сваёй Крыві, каб пазбавіць чалавека ад любой немачы і даць новае жыццё ў перамозе над хваробай. Прысутнасць Езуса стрымлівае і выганяе дэманаў, як гэта здарылася з мужчынам, апантаным легіёнам злых духаў. "Убачыўшы Езуса, ён упаў перад Ім і гучна закрычаў: «Што Табе да мяне, Езусе, Сыне Бога Найвышэйшага? Прашу Цябе, не муч мяне»" (Лк 8, 28). Тая ж сіла, якою Езус вылечваў натоўпы людзей, стала даступнай на Крыжы Збаўлення. "Але Ён паранены быў за грахі нашыя і пакутаваў за беззаконні нашыя; кара міру нашага была на Ім, і ранамі Яго мы ацаліліся" (Іс 53, 5).

Для таго, каб гэты святы акт ахвяравання набыў сапраўднае вымярэнне аздараўлення, хвораму неабходна выканаць пэўныя ўмовы. Асноўнае і нязменнае патрабаванне – непахісная вера. Вылечваючы пры жыцці, Езус неаднаразова падкрэсліваў, што вера з'яўляецца ключавым фактарам для атрымання выніку: "**Вера** твая ўратавала цябе" (Мк 5, 34), "**Не бойся, толькі вер!**" (Мк 5, 36), "Тым, хто **паверыць**, будуць спадарожнічаць такія знакі: [...] на хворых будуць ускладаць рукі і яны выздаравеюць" (Мк 16, 17–18). А адсутнасць веры, відавочна, прыводзіла да адсутнасці аздараўлення: "І абураліся на Яго. А Езус сказаў ім: «Няма прарока без пашаны, хіба што на бацькаўшчыне і ў доме яго». І не ўчыніў там многіх цудаў з прычыны іх бязвер'я" (Мц 13, 57–58). Аналагічна ў Евангеллі паводле св. Мацвея чытаем, як Езус тлумачыць вучням, што з-за малой веры яны не маглі выгнаць злых духаў і вылечыць хлопчыка (параўн. Мц 17, 20). Такім чынам, начынаем веры мы чэрпаем ласкі, і аздараўленне сувымерна з даверам да Езуса.

Другі ключ да вызвалення ад прыгнёту хваробы – прамаўляемае слова веры, якое з'яўляецца носьбітам Божай моцы. "Сапраўды кажу вам: калі хто **скажа** гары гэтай: «Падыміся і кінься ў мора», і **не засумняваецца ў сэрцы сваім**, але **паверыць**, што збудзецца сказанае, **так яму і будзе.** Таму кажу вам: усё, чаго просіце ў малітве, верце, што атрымаеце, і будзе вам" (Мк 11, 23–24). Такім чынам, замест таго, каб наракаць на сваю немач, пачні праслаўляць Божую моц. Ідзі пад крыж, стань у прысутнасці Езуса, з верай і даверам аддай Яму свой боль і пакуты. Скажы з удзячнасцю: "Пане Езу, дзякую за тое, што Ты ўжо заплаціў за мяне і забраў маю хваробу на крыж. Я веру, што кроўю з Тваіх ран я аздаравіўся". Паўтарай і разважай над гэтай праўдай, і ўбачыш, што тое, што гаворыш з перакананнем, з'яўляецца насеннем, якое прынясе адпаведны плён.

*Людвіга Цыдзік*

## НАВІНЫ



# МАЛІТВА Ў ІНТЭНЦЫІ БАЦЬКАЎ

Традыцыйна ў першую нядзелю чэрвеня ў Гродзенскай дыяцэзіі адзначаецца Дзень бацькі. Вернікі моляцца за ўсіх тат, а для памерлых просяць у Бога вечнага шчасця ў Небе.

Урачыстую св. Імшу ў інтэнцыі бацькаў дыяцэзіі ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Спасылаючыся на ўрачыстасць Найсвяцейшай Тройцы, якая адзначалася ў той жа дзень у Касцёле, іерарх падкрэсліў, што "гэта вялікая таямніца нашай веры, якую чалавек, пакуль жыве на зямлі, не зможа дасследаваць і пазнаць". Ардынарый заклікаў вернікаў стаць на калені і вызнаць сваю веру ў Бога Адзінага ў Тройцы, а таксама выкарыстаць урачыстую нагоду, каб умацаваць сувязь са Святой Тройцай.

## БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



У 44-ую гадавіну прэзбітэрскага пасвячэння біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч наведаў парафію ў Парэччы (дэканат Гродна-усход), дзе перад абразом Маці Божай Нястомнай Дапамогі дзякаваў за ўсе атрыманыя дары і ласкі.

## ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



У свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара, у Гродзенскай ВДС адбылося завяршэнне навучальнага года. З гэтай нагоды ў семінарыйнай капліцы прайшла ўрачыстая св. Імша пад кіраўніцтвам кс. б-па Аляксандра Кашкевіча, падчас якой алюмны і выкладчыкі дзякавалі Богу за чарговы навучальны год і за ўсе атрыманыя ў гэты перыяд дары і ласкі.

У духоўна-навучальнай установе распачаўся час канікул, падчас якіх клерыкі будуць служыць у сваіх родных парафіях, а таксама пройдуць літургічна-душпастырскую практыку ў касцёлах Гродзенскай дыяцэзіі.

## АДНЫМ РАДКОМ

• Кс. прэлат Ежы Лявінскі адзначыў 65-годдзе святарства. • 30-годдзе святарства кс. Яна Гавецкага адсвяткавалі ў Іўі. • Біскуп Гродзенскі наведаў санктуарый у Тракелях (дэканат Радунь), дзе быў абмеркаваны фармат сёлетняй адпустовай урачыстасці. • У інтэнцыі памерлага 5 гадоў таму кс. Яна Занеўскага памаліліся ў Квасоўцы (дэканат Гродна-захад). • У Польшчы памёр а. Леон Вітэк OMI, які ў 1995–2014 гадах служыў пробашчам у парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Зарачанцы (дэканат Сапоцкін).

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## Каляндар падзей

***17 чэрвеня***
*Успамін св. Альберта Хмялёўскага, манаха.*

***19 чэрвеня***
*Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Сусветны дзень малітвы аб святасці святароў. У гэты дзень не абавязвае ўстрыманне ад мясных страў.*

***20 чэрвеня***
*Успамін Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі.*

***24 чэрвеня***
*Урачыстасць нараджэння св. Яна Хрысціцеля.*

***Заахвочваем да ўдзелу ў чэрвеньскіх набажэнствах.***

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Чэрвень***
*Аб апостальскай уцягнутасці свецкіх асоб у жыццё парафіі і дыяцэзіі. У інтэнцыі хворых і цярпячых, а таксама тых, хто аказвае апостальскую дапамогу сваім душпастырам. Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

## Інфармацыя для абітурыентаў!

**Гродзенскі тэалагічны каледж імя св. Казіміра аб'яўляе набор студэнтаў на 2020/2021 навучальны год.**

Адной з галоўных мэт навучальнай установы з'яўляецца ўмацаванне веры, паглыбленне рэлігійных ведаў і падрыхтоўка спецыялістаў для рэлігійнай дзейнасці. Навучанне ў каледжы працягваецца 3 гады (з верасня па чэрвень).
Форма навучання – завочная. Заняткі праводзяцца ў 2-ую і 4-ую суботу і нядзелю месяца.
Пасля заканчэння каледжа выпускнікі могуць працягваць навучанне ў каталіцкіх ВНУ, атрымаць ступень магістра або доктара.

**Дакументы, неабходныя для паступлення:**
- заява (напісаная ўласнаручна);
- біяграфія (напісаная ўласнаручна);
- рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;
- копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі або іншыя дакументы аб адукацыі;
- копія пашпарта (с. 31–33);
- копіі пасведчанняў аб сакрамантах хросту і канфірмацыі;
- 3 фотаздымкі (3х4);
- медыцынская даведка;
- анкета (запаўняецца пры падачы дакументаў).

Перад падачай дакументаў абавязковы папярэдні запіс, які адбываецца па тэлефонах (8 029) 887-71-05, (8 0152) 75-33-08 або праз e-mail: kaledz.tealagiczny@gmail.com. Дакументы прымаюцца асабіста з 1 чэрвеня да 21 жніўня кожны аўторак з 10.00 да 12.00 у біскупскай курыі (г. Гродна, вул. К. Маркса, 4).

**Уступныя іспыты:**
- экзамен з катэхізіса і агульных ведаў пра Каталіцкі Касцёл; - кваліфікацыйная размова.

***Уступны іспыт адбудзецца 25 жніўня ў 11.00.***

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**18 чэрвеня 1954 г.** – кс. кан. Антоній Курыловіч, *ген. вік., проб. Гродна;*
**19 чэрвеня 1942 г.** – кс. Пётр Аранскі, *проб. Гальшаны;*
**19 чэрвеня 1955 г.** – кс. абп Рамуальд Ялбжыкоўскі, *Мітрапаліт Віленскі;*
**21 чэрвеня 1941 г.** – кс. Станіслаў Сташэліс, *проб. Сурвілішкі;*
**22 чэрвеня 1941 г.** – кс. Станіслаў Зубковіч, *проб. Трабы;*
**25 чэрвеня 1939 г.** – кс. Тамаш Калінскі, *проб. Міжэрычы.*

# 5-ГОДДЗЕ КАНСЭКРАЦЫІ КАСЦЁЛА Ў ВАЎКАВЫСКУ



*Фота "Каталіцкі Веснік"*

***13 чэрвеня 2015 года ў мікрараёне Цэнтральны быў асвечаны касцёл св. Станіслава Косткі. Урачысты акт здзейсніў тагачасны Апостальскі нунцый у Беларусі кс. абп Клаўдыа Гуджэроці пры ўдзеле ардынарыя Гродзенскай дыяцэзіі кс. б-па Аляксандра Кашкевіча.***

Як і для кожнай парафіі, падобная падзея ўпісваецца ў гісторыю залатымі літарамі. Кансэкрацыя касцёла – гэта Божая пячаць, якая перад усімі назаўсёды пацвярджае, што гэта месца, якое Пан Бог асаблівым чынам выбраў як месца сустрэчы, прабачэння, як месца, у якім неба сустракаецца з зямлёй. Гэты акт з'яўляецца красамоўным сімвалам, які ўказвае на прызначэнне святыні і алтара.

Касцёл св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску пабудаваны на месцы старадаўняга драўлянага, узведзенага ў 1926 годзе з тэлеграфных слупоў. У пасляваенны час святыня была зачынена і перааблсталявана для гаспадарчых патрэб, пазней перабудавана пад жылы дом.

Будынак былой святыні – частокова – вярнулі вернікам у 1995 годзе, праз 3 гады – цалкам. Парафіяне вырашылі не рэстаўраваць стары, а пабудаваць новы касцёл з каменю. Праект быў зацверджаны кс. б-пам Аляксандрам Кашкевічам у 2001 годзе. Вельмі абнадзейвала, што ў Ваўкавыску, дзе пражывае некалькі дзесяткаў тысяч чалавек, сярод якіх значная частка католікаў, паўстане яшчэ адзін касцёл.

Першапачаткова душпастырскую паслугу там здзяйснялі святары з мясцовага касцёла св. Вацлава. Пасля пробашчам былі прызначаны кс. Яўген Учкуроніс, затым – кс. Андрэй Бародзіч. У 2007 годзе прызначаны кс. кан. Алег Дуль. Ён стаў дасканалым будаўніком новай святыні і разам з тым цудоўным душпастырам для кожнага чалавека, асабліва сябрам дзяцей і моладзі.

"Калі касцёльныя муры пачалі набываць пэўную форму пад наглядам маладога пробашча, кс. Алег спытаўся, ці мог бы я дапамагчы знайсці адпаведны абраз св. Станіслава Косткі, – узгадвае а. Ян Банькоўскі OFMCap. – Такі абраз знаходзіцца ў бакавым алтары касцёла Абвяшчэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Міжэрычах, дзе я служыў пробашчам у 1989–2009 гадах. Тады была зроблена дакладная копія абраза св. Станіслава Косткі з Міжэрычаў для касцёла пад яго тытулам у Ваўкавыску-Цэнтральным… Сёлета мінае 5 гадоў з дня кансэкрацыі святыні. Безумоўна, застануцца ўспаміны пра гэтую ўзнёслую ўрачыстасць, на якой не будзе хапаць фізічнай прысутнасці святара з Божым сэрцам – кс. Алега Дуля. Аднак я перакананы ў яго духоўнай прысутнасці разам са св. Станіславам Косткай, заступнікам парафіяльнай супольнасці ў Ваўкавыску-Цэнтральным".



*Кс. абп Клаўдыа Гуджэроці ўрачыста адчыняе дзверы святыні*

*Фота "Каталіцкі Веснік"*

**Кс. канонік Алег Дуль адышоў у вечнасць 3 красавіка бягучага года. Сёння абавязкі пробашча ў парафіі выконвае кс. Павел Звяжынскі. Парафія налічвае каля 2 000 вернікаў.**

*Ангеліна Пакачайла*

## Дзіцячы куточак

# Мая дапамога святарам

***У адным касцёле падчас збору ахвяраванняў на св. Імшы старэйшы міністрант хадзіў з вялікім плеценым кошыкам, падобным на той, у які складваюць садавіну. У шэрагу лавак сядзеў хлопчык. Ён зацікаўлена на ўсё глядзеў і вельмі хацеў зазірнуць у кошык. Убачыўшы, што вернікі кідаюць у яго грошы, сунуў руку ў кішэню, але з сумам намацаў там усяго некалькі пясчынак.***

***– Я не маю нічога, што мог бы даць Пану Богу, – прашаптаў хлопчык з апушчанай галавой. Занепакоены, ён з хваляваннем глядзеў на міністранта, які набліжаўся.***

***Нарэшце кошык апынуўся перад ім. Старэйшы міністрант усміхнуўся хлопчыку, як рабіў гэта перад кожным іншым чалавекам. Тады той устаў і, задаволены, усеўся ў кошык. Так нібыта хацеў сказаць: “Усё, што маю, ахвярую Богу”. І раптам, хоць ніхто не датыкаў клавіш, прысутныя пачулі, як арган сам зайграў “Алелюя!”.***

*Прывітанне, Маленькі Чытач! Аб чым гэтая кароценькая гісторыя? Хлопчык склаў Богу найлепшую ахвяру, якая толькі можа быць, – самога сябе. Гэта магчыма, калі чалавек ахвяруе сваё жыццё на службу Богу. Такая ахвяра называецца пакліканнем да святарства.*

*Хто такі святар? Гэта чалавек, выбраны Богам сярод людзей, каб быць пасрэднікам паміж імі. Гэта пасланец Евангелля. Ён абвяшчае людзям любоў Айца і сам стараецца пераймаць Хрыста, выконваючы Яго волю. Святар накіроўвае людзей, паказваючы шлях да Нябеснага Валадарства, і нясе адказнасць за ўсіх вернікаў перад Панам. Гэта чалавек, поўны Бога, бо быў Ім пакліканы і ўстаноўлены для апостальскага служэння, дзейнічае Яго сілай. Святар надзелены мноствам абавязкаў: адпускаць грахі, складаць ахвяру св. Імшы на алтары, удзяляць Божае Цела падчас св. Камуніі, сакраманты, бласлаўляць, навучаць…*

*Сатана не любіць святароў, таму што яны атрымалі асаблівую задачу і вялікую ласку ад Бога. Нячысты ведае, што калі зможа адцягнуць святара ад Бога, разам з ім адцягне мноства людзей. “Удару пастыра, і рассеюцца авечкі” (Мк 14, 27). Сатана таксама не любіць людзей, якія моляцца за святароў. Але хіба гэта павінна напужаць нас? Канешне не! Бог мацнейшы за ўсякае зло. З Ім і мы таксама можам пераадолець любы страх і бяду.*

*Неабходна мужна маліцца за святароў. Ім патрэбна наша малітва, каб быць святымі і прывесці людзей у рай. Яны з’яўляюцца даверанымі асобамі многіх сэрцаў, нясуць пакуты многіх вернікаў. Молячыся, мы хочам дапамагчы ім, хочам быць іх апорай, каб рукі не спыняліся; быць іх сілай, калі гэтага не хапае; быць суцяшэннем, калі іх сэрцы неспакойныя. Часам святарам нашмат цяжэй, чым нам. Таму мы павінны прыняць да сэрца словы св. Яна Марыі Віянэя, які казаў, што няма дрэнных святароў, а ёсць толькі тыя, за каго мала моляцца.*

**Заданне:** ***разам з бацькамі складзі малітву за святароў і маліся ёй як мага часцей. Падумай, чым яшчэ можаш дапамагчы, і ўчыні гэта.***

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**
з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, сіл і стойкасці ў душпастырскай працы, апекі Маці Божай, добрых і зычлівых людзей навокал. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і бласлаўлёны.
*Вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Доцішках*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Шпеню**
з нагоды 45-годдзя з дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, патрэбных ласкаў і бласлаўлення ад Бога, апекі Панны Марыі і ўсіх святых. Дзякуем Вам за працу па адраджэнні нашай парафіі, за духоўную апеку над намі, за тое, што, як Езус Хрыстус, з’яўляецеся нашым настаўнікам і ў хвіліны радасці, смутку ды жалю працягваеце руку дапамогі. Дзякуем Пану Богу за дар святарства для Вас, а Вашай маме – за тое, што выхавала Вас і на працягу многіх гадоў з’яўляецца ахвярнай дабрадзейкай нашай парафіі.
*Вернікі з касцёла Апекі НПМ у Дайлідках*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Антонію Філіпчыку**
з нагоды імянін жадаем здароўя, цёплых і сонечных дзён, шчодрых Божых дароў і ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама добразычлівых людзей побач. Няхай Пан Бог за ўсё Вас узнагародзіць.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ваўкавыска*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Аксенцьеву**
з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, нястомных сіл і штодзённай радасці. Няхай Вас заўсёды ахінаюць прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Маці. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы, а святы заступнік заўсёды будзе побач. Мы вельмі ўдзячны Богу за тое, што ў нас служыць святар, які вучыць быць сапраўднымі хрысціянамі, шчыры ў малітве і працы, а таксама гатовы заўсёды прыйсці з дапамогай. Дзякуем за павучальныя казанні, дабрыню, цярплівасць, сціпласць і клопат пра людзей.
*Удзячныя вернікі з парафіі Лядск*

**Паважанму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды дня нараджэння жадаем мноства Божых ласкаў. Няхай Святы Дух напоўніць шэрыя дні глыбокім сэнсам Вашай паслугі, каб у брамы Неба на ўласных руках Вы прынеслі дар свайго ахвярнага жыцця дзеля большай Божай хвалы.
*Андрэй Слонімец і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**
з нагоды дня нараджэння і 35-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем, каб Езус Хрыстус штодзённа Вас бласлаўляў, Маці Божая ахінала сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагаў годна выконваць святарскую паслугу і нястомна ўдзяляў свае дары. Жывіце ў радасці, а Ваша сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю. Дзякуем за шчырасць, дабрыню, любоў да людзей, за мудрасць, аптымізм, нястомнасць і вынаходлівасць у душпастырскай працы, за клопат пра нашу святыню. Молімся, любім, паважаем і ганарымся Вамі.
*Парафіяльны камітэт і вернікі з парафіі Унебаўзяцця НПМ у Дзятлаве*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**
з нагоды дня нараджэння жадаем, каб Пан Бог штодзённа адорваў Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анел-ахоўнік чувае і дапамагае годна перажываць кожны дзень сярод верных і добразычлівых людзей.
*Сем’і Шчоцкіх і Каспяровіч*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**
з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, нястомных сіл у абвяшчэнні Евангелля Божаму люду, шчодрага плёну ў душпастырскай паслузе, нязломнай веры, душэўнага супакою і шчырай радасці ў сэрцы.
*Парафіяне з касцёла в. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Чургану**
з нагоды 45-годдзя жадаем моцнага здароўя, радасці і поспехаў у душпастырскай паслузе. Няхай Езус Хрыстус ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая атачае любоўю і апекуецца Вамі. Усяго найлепшага ў жыцці!
*Ружанцовае кола МБ Тракельскай і парафіяне з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Стэцкевічу**
з нагоды 24-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, цярплівасці, дароў Святога Духа, радасці, выплываючай з паклікання, апекі святога заступніка і нястомнай дапамогі Маці Божай. Няхай на святарскай дарозе Вам спадарожнічае блізкасць Бога, які Вас паклікаў і якому Вы аддалі сваё жыццё.
*Апостальства “Маргарытка” і вернікі з парафіі св. Казіміра, Першамайск – Нецеч*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**
з нагоды 20-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою і мноства дзён у Божай ласцы. Няхай Святы Дух асвячае сваім святлом Ваша святарскае жыццё, Хрыстос будзе Вам Сябрам, а служба Богу і людзям прыносіць задавальненне і шчодры плён.
*Сям’я Паўлюкевіч з аг. Алекшыцы*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Ластоўскаму**
з нагоды дня нараджэння жадаем здароўя, шчасця, нязгаснага запалу веры і плённай паслугі на ніве Пана. Няхай міласэрны Бог і Святы Дух дадаюць Вам сіл і натхнення, а Маці Божая штодзённа адорвае пяшчотай і цеплынёй свайго сэрца. Жадаем рэалізацыі ўсіх планаў і зычлівых людзей на святарскім шляху. Дзякуем за адданасць у службе, клопат, любоў і павагу да кожнага з нас. Памятаем пра Вас у малітвах.
*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Антонію Філіпчыку**
з нагоды імянін і дня нараджэння жадаем Божага бласлаўлення на кожны дзень, нястомнай апекі Панны Марыі і святога Антонія, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама добрага здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсіх справах і шмат радасці. Шчыра дзякуем за клопат пра нас.
*Францішканскі ордэн свецкіх і Ружанцовае кола МБ Нястомнай Дапамогі з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Айцу Антонію Пажэцкаму**
з нагоды імянін жадаем патрэбных Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Яму і людзям. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам на працягу доўгіх гадоў, прыносячы задавальненне і радасць ад таго, чаго ўдалося дасягнуць.
*Члены Рыцарства Беззаганнай і Адарацыйнага кола*

**Паважаны Ксёндз Алег Яновіч!**
З нагоды дня нараджэння жадаем Вам шмат Божых ласкаў, здароўя, шчасця і радасці на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Маці вядзе Вас найпрыгажэйшым шляхам, а кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць задавальненне і шчодры плён.
*Сям’я Карнеловіч з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Уладзіміру Гуляю**
з нагоды 45-годдзя з дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, а таксама людской дабрыні. Мы ўдзячны Богу за тое, што ў нас служыць шчыры ў малітве святар, які вучыць быць сапраўднымі хрысціянамі і заўсёды знаходзіць добрае слова для кожнага чалавека. Ваша глыбокая вера ў Бога, эрудыцыя, інтэлігентнасць і самаадданасць у душпастырскай працы заварожваюць. Вы наш мудры духоўны настаўнік. Дзякуй за тое, што лечыце нашы душы.
*Касцёльны камітэт, апостальства “Маргарытка” і вернікі з Ліды-Фары*

**Паважанаму Айцу Юзафу Гензу**
з нагоды 50-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем вялікай радасці з кожнага дня паслугі, шчодрых дароў Святога Духа, здароўя і ўсяго добрага. Няхай Бог, багаты на міласэрнасць, бласлаўляе Вас на далейшыя гады святарскага жыцця.
*Супольнасць Францішканскага ордэна свецкіх, апостальства “Маргарытка” і вернікі з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Казлоўскаму**
з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, плённай душпастырскай паслугі, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Няхай Езус Хрыстус адорвае Вас усімі ласкамі, Анёл-ахоўнік дадае сіл, Маці Божая ахінае сваёй пяшчотай, а Святы Дух вядзе праз жыццё.
*Вернікі з в. Малінавая*

**Паважанай Сястры Антоніі Шэйгерэвіч**
з нагоды імянін жадаем мноства Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка, дароў Святога Духа, добрых і зычлівых людзей побач. Няхай кожны дзень будзе напоўнены моцай, любоўю, верай і надзеяй на лепшае.
*Вернікі з парафіі Поразава і Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Яновічу**
з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, сіл, радасці і душэўнага супакою. Дзякуем за дабрыню, зычлівасць і зразуменне, якімі адорваеце людзей. Няхай Бог бласлаўляе Вас і ўдзяляе свае ласкі, а Маці Божая, святы заступнік і Анёл-ахоўнік падтрымліваюць у рэалізацыі душпастырскай паслугі і нястомна маюць у сваёй апецы.
*Парафіяне і члены Ружанцовага кола св. Юзафа з Воўпы*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**
ў сувязі са смерцю бацькі складаем свае шчырыя спачуванні. Няхай Пан Бог прыме душу памерлага ў сваё Валадарства, а Вам аблегчыць боль ад страты блізкага чалавека.
*Парафіяне з капліцы ў Масалянах*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**
ў сувязі са смерцю бацькі перасылаем словы шчырага жалю і спачування, яднаючыся ў малітве аб вечным супакоі для памерлага.
*Вернікі з парафіі Малая Бераставіца*

**Паважанай Сястры Фаўстыне Цыдзік**
і ўсёй сям’і, паглыбленай у жалобу ў сувязі са смерцю любімай мамы Юзэфы, выражаем свой глыбокі жаль і перасылаем словы спачування.
*Падапечныя з Дома міласэрнасці ў Каменцы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2625; тыраж 4046; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная